ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 5 (104) 3 – 9 лютага 1995 г. Кошт 150 рублёў

*Зянон Пазьняк лічыць, што адбылася змова бюракратаў дзьвух краін.* - ст. 2.

*За кастрычнік 1993 года продаж старадаўніх манетаў прынёс прыбытак 2500 даляраў.* - ст. 3.

*Не пасьпеўшы перавесьці дух, "Крама" накіравалася на студыю радыё "Ракурс".* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь
А.Лукашэнку
Старшыні Вярхоўнага Савета
М.Грыбу
Генеральнаму пракурору
В.Шаладонаву

## ЗВАРОТ АД ГРАМАДЗЯН ГОРАДНІ

Мы, жыхары Горадні, рашуча пратэстуем супроць адыёзнай заявы старшыні камісіі па нацыянальнай бясьпецы і вайсковых пытаньнях тав. Прывалава, дзе ён прапануе накіроўваць беларускіх хлопцаў у гарачыя кропкі Расеі і СНД (Чачню, Таджыкістан і іншыя). На гэтых тэрыторыях льецца людзкая нявінная кроў з-за імперскай палітыкі Расеі, якая можа прывесьці да трэцяй сусьветнаай вайны.

Заява тав. Прывалава, адказнай дзяржаўнай асобы, - зьяўляецца грубым парушэньнем Канстытуцыі Беларусі і яе нейтралітэту.

Далоў дагавор аб калектыўнай бясьпецы з Расеяй!

Далоў вайсковыя базы Расеі з тэрыторы Беларусі!

Жыве нейтральная і мірная Беларусь!

**Усяго 156 подпісаў.**



**Можа на нешта такое падобны імпэт нашых кіраўнікоў-"рынычнікаў". Вялікая прага да новага шчасьлівага жыцьця... Але неўміручыя пакуль што асновы класікаў савецкай палітэканоміі як гэты бэтонны пастамант трымаюць грэшных людзей на грэшнай зямельцы. Толькі хто будзе плаціць за гэтыя грахі.**

## З ЧАРНАВЫХ НАКІДАЎ ВЕДЗЬМАКА ЛЫСАГОРСКАГА

Займеў Лука сусьветны клопат,
Сваю дзяржаву прадае,
І ёсьць жа ёсьць на рынку попыт,
І добры грош купец дае.
Дае Луцэ чын генерала
І губернатара дае,
А каб было не надта мала
Бярэ ў намесьнікі свае.
Лука ад шчасьця ледзь не млее,
Ад нецярпеньня траціць сон,
І цэглу ўжо для маўзалея
Паціху прыкупляе ён.
Даўно назваў ён "чэпухою"
І незалежнасьць і народ
І цягне з Сілаю ўсёю
Нас у расейскі агарод.
Ды сіла ёсьць на Беларусі,
Якой Мудзішчаву не зьмяць,
Лука не можа Фронт прымусіць
Ні пакарыцца, ні маўчаць.
Даводзіць праўду Фронт народу,
Сьвятлее люд ад праўды той
І наш Лука з тае нагоды
На БНФ ідзе вайной.
Са злосьці ён ажно шалее,
Крычыць, і енчыць, і вішчыць
Ён нас далучыць да Расеі
Каб БНФу насаліць.
Ён нас направіць на чачэнцаў
Расеі братняй памагаць,
Бо штось Расеі не ўдаецца
Чачэнскіх "Злыдняў" званяваць.
Яныж бо "Злыдні" бач якія,
Расейцаў спраўна б'юць і б'юць
І так пабілі, што ўжо тыя
Полк за палком туды вязуць.
Там горы ўсьцяж, куды не глянеш,
Нібыта вежы на Крамлі,
У Крамлі ж на Ціхім акіяне
Шукаць падмогу пачалі.
Назад вязуць калек, забітых,
Ды тым Мудзішчава не ўзяць,
Лука калісь быў зампалітам,
Яго вучылі ваяваць.
Газету "Праўда" перад "боем"
Заўжды жаўнерам ён чытаў,
Хай зараз дзякуюць за тое,
Саюз тады не ваяваў.
А то павёў бы зьвяз ў атаку,
Бо больш яму ніхто б не даў,
Ды шчэб забілі небараку,
То пра каго ж бы я пісаў.
А зараз, бачыш, іншым ладам
Цячэ жыцьцёвая рака,
Лука камандуе парадам,
Кіруе войскам наш Лука.
Здымае спраўна генералаў,
А сам па чыну ён - маёр,
Па ведах цягне на капрала,
Па звычках - ротны жывадзёр.
Таму скажу Вам без сакрэту,
Калі мы ўлезем у вайну,
То нам прышлюць з-за бела-сьвету
Труну сюды і не адну.

**Данёс ў рэдакцыю СІМПАТЫК "Пагоні"**

## БЕЛАРУСКІЯ ДЭПУТАТЫ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ У АБМЕРКАВАНЬНЯХ РАСЕЙСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ ПА ПЫТАНЬНЮ АБ ДВУХБАКОВЫХ АДНОСІНАХ

27 студзеня з гэтае нагоды адбылася прэс-канферэнцыя, на якой першы намесьнік старшыні Вярхоўнаага Савета Беларусі Вячаслаў Кузьняцоў падкрэсьліў, што ў Маскву езьдзіла менавіта група дэпутатаў, а не дэлегацыя беларускага парламенту. Вячаслаў Кузьняцоў сказаў, што ў сваім выступе ў Думе ён заявіў пра неабходнасьць стварэньня наднацыянальнага органу, які б каардынаваў збліжэньне дзьвух сп. Кузьняцоў таксама заявіў у Думе, што выступае супраць дэнансацыі белавежскіх пагадненьняў, паколькі гэта будзе крок назад, да двухбаковых адносінаў. Па словах кіраўніка аналітычнага аддзелу адміністрацыі прэзідэнта Пятра Капітулы, прадстаўнікі расейскага ўраду, якія выступалі ў Думе, амаль незнаёмага з праблемамі беларуска-расейскіх адносінаў. Дэпутат Сяргей Навумчык заявіў, што візіт быў карысны ўжо таму, што "мы мелі магчымасьць азнаёміцца з пазіцыяй розных фракцыяў і прадстаўнікоў ураду". Па яго словах, БНФ і "Выбар Расеі" знайшлі па шэрагу пытаньняў паразуменьне і будуць кантактаваць. "З той інфармацыяй, што я атрымаў ад дэпутата Думы Сяргея Юшанкова, вынікае, што Ельцын на маючых адбыцца выбарах гэтай арганізацыяй падтрыманы не будзе, а стаўка будзе зроблена ці на Гайдара, ці на Ялінскага", - сказаў сп. Навумчык. Ён таксама прывёў словы кіраўніка юрыдычнага ўпраўленьня памежных войскаў Расеі аб тым, што адпрацоўваюцца варыянты цеснага супрацоўніцтва памежных службаў дзьвюх краін. У прыватнасьці, мяркуецца, што два намесьнікі камандуючага памежнымі войскамі Беларусі будуць расейскімі генераламі, а пабудова мяжы Беларусі з Летувой і Латвіей будзе на 50% фінансавацца з расейскага бюджэту.

**СІМ**

## "ВЕРАС-31" - ТЭЛЕВІЗАР... ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Мала хто ведае, што навінка Гарадзенскага завода "Радыёпрыбор" "Верас-31" створаная ідэямі і рукамі трох суседніх народаў - беларусаў, палякаў і летувісаў. Так, начыньне на завод пастаўляюць летувіскія прадпрыемствы былой абаронная прамысловасьці Саюза, а польская фірма "Біязэт", што ў Беластоку, робіць карпусы і элементы платы.

Што ж уяўляе сабой навінка? Вельмі прыгожы дызайн, нічым не горшы за апошнія заходнеэўрапейскія распрацоўкі. Больша кінескоп, вышэйшая ступень надзейнасьці. Зараз за зьмену выпускаюць амаль 1,5 тысячы тэлевізараў. Прычым, работа ідзе і ў выхадныя дні. Новыя працоўныя месцы атрымалі каля сотні гарадзенцаў.

З сакавіка на базе "Верас-31" будзе выпускацца "Верас-450", ў якім замест трансфарматара ўпершыню ў рэспубліцы будзе прыменены імпульсны блок сілкаваньня. А ў траўні з канвеера завода сыйдзе першы каляровы тэлевізар. Па сваіх тэхнічных характарыстыках гэта будзе малагабарытны апарат шостага пакаленьня, з дыстанцыйным кіраваньнем, тэлетэкстам, запамінальнікам 39 праграмаў, а таксама з самарэгулятарам яркасьці і кантраснасьці. Зараз некалькі каляровых тэлевізараў праходзяць выпрабаваньні.

Як бы не хацелі сёньня некаторыя палітыкі замаўчаць існаваньне Вялікага Княства Літоўскага, гэты вось прыклад з тэлевізарам яшчэ раз яскрава нагадвае нам аб нашым славутым мінулым, у якога можа быць добрая будучыня.

## ДА НАС ПРЫЙШЛА ЛІЧБАВАЯ СУВЯЗЬ

Месяц таму ў Горадні была ўведзена ў лік дзеючых лічбавая тэлефонная станцыя. Тым самым мы атрымалі выхад у міжнародную лічбавую тэлесувязь. Навінка тэхнікі аб'ядноўвае раней разьдзеленыя службы для перадачы мовы, тэксту, дадзеных і адлюстраваньня ў адну сетку - лічбавую, з інтэгральным абслугоўваньнем. Дзелавыя людзі, а гэта ім у першую чаргу прызначана новая паслуга, могуць ствараць сеткі для перадачы дадзеных з хуткасьцю 64 кілабайт у секунду, а падключэньне факса чацьвёртай групы дазвляе перадаваць старонку тэксту меньш чым за 10 секундаў.

З іншых магчымасьцей лічбавай тэлефоннай сувязі адзначым перш за ўсё такія, як злучэньне без набору нумара, забарона ўваходзячай сувязі ("не турбаваць!"), чаканьне выкліка, адначасовая канферэнцсувязь трох абанентаў, аўтаматычны будзільнік, перадача важнага званка ў месцы, дзе знаходзіцца чалавек, які яго чакае і шмат што іншае.

У лічбавую сістэму сувязі падключаюцца кампутар, відэатэлефон, факс.

У першы ж месяц дзеяньня лічбавай сувязі яе атрымалі 15 абанентаў. Зразумела, што ўсім яна не па кішэні. Бо толькі адно падключэньне каштуе 550 даляраў ЗША, абанементная плата за месяц - 10 даляраў.

**М.МАЗУР**



## СЯБРОЎСТВА СЯБРОЎСТВАМ, А ТЫТУНЁК ПААСОБКУ

Цэлы эшалон тытуню нізкай якасьці быў вярнуты ў мінулым годзе Гарадзенскай тытунёвай фірмай прадпрыемствам-пастаўшчыкам з Кыргызстана, Таджыкістана і Азербайджана. Дружба дружбай, а з такой трухі, што прыйшла, цыгарэты не выпрадукуеш...

А прыкончыла гэтую шматгадовую манаполію фірма "Універсал-ліф", якая пастаўляе тытунь з 53 краін сьвету. Гарадзенцы, дзякуючы доўгатэрміноваму супрацоўніцтву, змаглі павысіць і якасьці цыгарэт, і прыступіць да асваеньня новай прадукцыі.

Цяжка хворай дзяўчыне спатрэбіліся лекі. Толькі адна іх ампула на Гарадзенскім рэчавым рынку каштуе звыш 30 даляраў. Міністэрства аховы здароўя рэспублікі таксама нічым не магло дапамагчы хворай. І вось нядаўна прадстаўнік фірмы "Універсал-ліф" уручыў хворай некалькі дзесяткаў упаковак гэтых дэфіцытных лекаў.

**М.М.**

# ПАЛІТЫКА. ГРАМАДЗТВА

## ТЛУМ НА ПЛЯЦЫ

На пляцы імя Леніна ў Горадні адбыўся мітынг, які ладзілі афіцыйныя прафсаюзы. Сваіх калегаў з незалежных прафсаюзаў афіцыйнікі не запрасілі, спаслаўшыся, што гэта мітынг выключна іхні. Відаць таму й прэвалявалі тут выступоўцы ад былой і сучаснай наменклатуры партыі камуністаў. Малолі тое самае, што і тры-чатыры гады таму. "Шчабяталі", што Лукашэнка іх прэзідэнт, яму патрэбна толькі дапамога і ён выратуе Беларусь, салье яе ў адзін гурт са ўсімі "славянскімі" народамі, Расеяй і Казахстанам.

Дашчабяталіся, бо прысутныя, ўсчуўшы такое, закрычалі хорам "Ганьба", "Далоў".

Пасьля такога "бурнага" прыёму арганізатары страцілі імпэт, зьніклі і чырвоныя штандары. Мітынг скончыўся пад акампанемент мокрага сьнегу. Мітынгоўшчыкі разышліся, так, відаць, і не зразумеўшы, дзеля чаго яны сюды прыйшлі. Ішлі нібыта выказаць пра набалелае - гаротны стан жыцьця, - а пачулі водгукі гэтак недалёкай мінуўшчыны.

А.КРАМУШЭВІЧ




## КАГО ТЫ КОРМІШ, БЕЛАРУСКІ НАРОД?

24 студзеня ў Лідзкім доме афіцэраў адбыўся сход афіцэраў запасу і ў адстаўцы. На павестцы дня справаздача камітэта садзейнічаньня ваенкамату ды выбары новага Камітэту. Ачаляў сход ваенкам Лідзкага АВК палкоўнік Рагачоў.

Са справаздачай выступіў падпалкоўнік у адстаўцы Галін. Справу за сваім Камітэтам назваў ён ня шмат, тым не менш выклікаў дружныя воплескі. За што? Ды за тое, што ў асноўную заслугу свайму камітэту ён паставіў барацьбу супраць БЗВ. У Камітэта хапіла духу ажно на цэлы зварот з патрабаваньнем забараніць гэты патрыятычны рух. Законччыў заклікам не дапусціць стварэньня дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў і пагалоўна ўступаць у "родную камуністычную партыю".

Лямантам па Савецкім Саюзе, заклікамі да стварэньня Саюза афіцэраў, мацаваньня шэрагаў кампартыі былі напоўнены выступленьні зьмяніўшых яго на трыбуне ветэранаў.

Сапраўдны шабаш у зале пачаўся падчас выбараў новага камітэта, калі ў яго склад быў прапанаваны падпалкоўнік запасу, кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БЗВ, старшыня Лідзкай рады БНФ Станіслаў Суднік. З шасьці соцень прысутных за патрыёта Беларусі прагаласавалі тры чалавекі. Сьвіст, тупат, крыкі, нянавісьць. І не столькі да БЗВ ці БНФ, як да Беларусі, яе народа, яе мовы. Не сакрэт, што большасьць прысутных у зале былі не беларусы. Тым ня менш пенсіі яны атрымоўваюць беларускія, маюць мноства ільготаў і прывілеяў. Пенсіі і прывілеі не малыя ў параўнаньні з тымі, хто ўсё жыцьцё гнуў сьпіну ў калгасе ці на заводзе. І такая ўдзячнасьць. Што ж "русский человек должен везде чувствовать себя как дома", але ніхто не стане карміць сабаку, які брэша на гаспадара. Дык ці не зашмат шалёных сабак кормім Мы, беларускі народ.

Напрыканцы хацелася б задаць пытаньне, як стасуецца непалітычны, дзяржаўны статус Лідзкага, беларускага, вайсковага камісара палкоўніка Рагачова, да арганізаванай ім антыдзяржаўнай палітычнай імпрэзы. А мо для таго і сядзяць такія Рагачовы на нашай зямлі каб падтрымліваць баявы дух расейскай пятай калоны на Беларусі.

Палкоўнік У.ВОЙНІЧ

## ПІКЕТ НА САВЕЦКІМ ПЛЯЦЫ

Раднымі Гарадзенскай суполкі Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", сумесна з сябрамі партыі Беларускага народнага фронту ў скверы на Савецкім пляцы Горадні быў наладжаны пікет супраць агрэсіі Расеі ў Чачне. Сваёй акцыяй пікетчыкі выказвалі пратэст магчымага ўдзелу беларускіх жаўнераў на баку Расеі ў несправядлівай вайне супраць чачэнскага народу. Зьбіралі подпісы пад адозвай да Вярхоўнага Савету рэспублікі.

Прыкладна, каля 200 чалавек падпісаліся пад гэтым дакументам.

Г.А.

## САБРАЛІСЯ І ПАРАІЛІСЯ

Сябры гарадзенскай суполкі Беларускага народнага фронту правялі пасяджэньне сумесна з членамі мясцовай філіі БСДГ.

Мэта сустрэчы, удасканаленьне дзеяньняў падчас выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы. Таксама на сустрэчы абмеркавана пытаньне аб вылучэньню кандыдатаў у дэпутаты ад дэмакратычных партыяў на ўзгодненыя акругі.

Г.Д.

### Старшыні Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта сп. Дубко

## ЗВАРОТ

Прайшло пяць год з моманту прыняцьця Вярхоўным Саветам нашай рэспублікі Закона аб мовах. На жаль, за гэты перыяд мы сталі сьведкамі сталага і грубага парушэньня, а то і простага не- выкананьня дадзенага Закона. Дастаткова ўзгадаць 4 і 12 артыкулы, каб убачыць дзейнасьць у гэтым напрамку нашых кіруючых органаў. Артыкул 8-ы вышэйзгаданага Закона патрабуе з 26 студзеня 1995 года поўнага пераводу справаводзтва на дзяржаўную мову. Ці адбылося гэта? Хутка пройдзе і тэрмін, адведзены на канчатковы пераход на беларускую мову дашкольных і сярэдніх навучальных установ. Ці пазітыўна ідзе гэты працэс?

Мы, сябры гісторыка-культурнага клуба "Паходня", зьвяртаемся да кіраўніцтва вобласьці з патрабаваньнем жорсткага кантролю за выкананьнем Закона аб мовах, або парушэньні ў дачыненьні да аднаго Закона абавязкова выклічуць парушэньні і іншых Законаў, а гэта ўжо вядзе да беззаконьня і безуладзьдзя. Для кантролю за выкананьнем Закона аб мовах, каардынацыі дзеяньняў і кансультатыўнай дапамогі мы прапануем увесьці ў структуру выканкама пасаду інспектара па пытаньнях рэалізацыі Закона аб мовах.

## НАРОДНЫ ФРОНТ СУПРАЦЬ ПАГАДНЕНЬНЯЎ З РАСЕЯЙ АД 6 СТУДЗЕНЯ

На прэс-канферэнцыі 26 студзеня лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк зрабіў заяву, што беларуска-расейскія пагадненьні, падпісаныя 6 студзеня прэмьер-міністрам Беларусі, накіраваныя на зьнішчэньне беларускай дзяржаўнасьці і інкарпарацыю рэспублікі ў склад Расейскай Федэрацыі. На думку лідара апазіцыі, у Расеі склаўся мафіёзна-бюракратычны рынак. Зянон Пазьняк лічыць, што адбылася змова бюракратаў дзьвюх краінаў, а гэтыя пагадненьні накіраваны на захоп уласнасьці Рэспублікі Беларусь. "Зараз ва ўладзе людзі, якія лабіруюць інтарэсы расейскай бюракратыі", - сказаў лідар БНФ. Падпісаньне гэтых дакументаў супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і мае элементы нацыянальнай здрады. Сябра ценявога кабінету БНФ Іван Нікітчанка сказаў, што мытны саюз прадугледжвае ўвядзеньне Беларусьсю мытных падаткаў, роўных расейскім, што неадпавядае эканамічным інтарэсам нашае дзяржавы. Сп. Нікітчанка таксама заявіў, што "ўсе эканамічныя санкцыі, якія будуць прымацца сусьветным супольніцтвам у адносінах да Расеі, напрыклад, у сувязі з Чачнёй, аўтаматычна будуць распаўсюджвацца на Беларусь." На думку ценявога міністра Анатоля Станкевіча, пагадненьне аб прынцыпах стварэньня фінансава-прамысловых груп прывядзе да таго, што значная частка ўласнасьці рэспублікі будзе выключана з працэсу прыватызацыі. Кіраўнік ценявога кабінету БНФ Уладзімір Заблоцкі сказаў, што "дэмакратычная краіна не павінна падпісваць ніякіх пагадненьняў з краінай, дзе парушаюцца правы чалавека, і перш за ўсё - права на жыцьцё". Ён таксама заявіў, што падпісаныя 6 студзеня пагадненьні не зьяўляюцца раўнапраўнымі, і Беларусь - па міжнароднаму праву можа іх не выконваць. На пытаньне, чаму апазіцыя не ставіць пытаньня аб імпічменце прэзідэнту, калі ён парушае Канстытуцыю, Зянон Пазьняк заявіў, што "гэты Вярхоўны Савет зараз не ў стане вырашыць пытаньне такой значнасьці".

СІМ

## ПРЭЗІДЭНТ ЛІЧЫЦЬ, ШТО ЯГО АПОРА ВА ЎСІМ - МУС, КДБ І ВОЙСКА

30 студзеня адбылося пашыранае пасяджэньне калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі па выніках году, у якім прымаў удзел Аляксандр Лукашэнка. У сваёй прамове прэзідэнт у эмацыянальнай форме распавёў прысутным аб злачыннасьці ў Беларусі. Прэзідэнт абвясьціў, што ў хуткім часе стане вядомым яго ўказ, дзе будзе прапанаваны шэраг мераў, накіраваных на зьнішчэньне эканамічнай злачыннасьці. Сярод іх - прафілактычныя дзеяньні ў сферы эканомікі, абарона нацыянальнай валюты, забарона незакончанага вывазу каштоўнай сыравіны і тавараў з Беларусі. Па меркаваньнях прэзідэнта, парадак павінны навесьці МУС, КДБ і ў нейкай меры Міністэрства абароны. "Ожидал народ порядка - что получил?" - пытаў Аляксандр Лукашэнка. Як абвясьціў прэзідэнт, з 22 старонак даклада аб злачыннасьці ў Беларусі, падрыхтаваным Міністрам унутраных спраў Юрыем Захаранка, ён нічога не зразумеў, прачытаўшы даклад двойчы. Апялююч да міністра, Аляксандр Лукашэнка зазначыў, "что накаты под идею полицейского государства не имеют под собой основания", дадаўшы потым, што "я готов поддержать МВД, КГБ и армию. Они получат всё необходимое, ибо они опора президента во всех областях. Не будет хватать - будет финансирование как из внутренних ресурсов, так и из государственной казны. Отдадим на места, в районные и областные отделения милиции все иномарки, которые Кебич когда-то купил для правительства", - зазначыў прэзідэнт. Па словах Аляксандра Лукашэнкі, ён быў вельмі зьдзіўлены тым, што МУС і КДБ не займаюцца праблемамі падзеньня нацыянальнай валюты. "Ведь из-за этого наше обнищание. Если МВД заработает в полную силу и будет выполнять распоряжения в области экономики, то будет получать не хуже, чем в лучшие времена". Не разумеў прэзідэнт і тое, чаму адсутнічае парадак у сродках масавай інфармацыі. "МВД и КГБ должны изучить ситуацию в СМИ и повлиять на нее". Аб міжнародным валютным фондзе прэзідэнт выказаўся адназначна адмоўна: "МВФ будет диктовать условия молодому суверенному государству?" Гаворачы аб злачыннасьці, прэзідэнт зазначыў, што злачыннасьць яго палохае. Рост яе ў Беларусі больш, чым у Расеі, Украіне і Прыбалтыцы: "Я готов сам одеть бронежилет и пойти с вами", - паабяцаў прысутным прэзідэнт. Зазначыўшы, што ў Беларусі няма патрэбнай прававой базы па барацьбе са злачыннасьцю, А.Лукашэнка абвінаваціў у гэтым Вярхоўны Савет: "90% депутатов Верховного Совета кормятся из коммерческих структур, и преступность им на руку". Што тычыцца адносінаў з камерцыйнымі структурамі, прэзідэнт зазначыў: "Если банки не займут нормальное положение по отношению к национальной безопасности, приму меры с помощью МВД. Собственность будет национализироваться немедленно. Жду указа по борьбе со злоупотреблениями в строительстве особняков и коттеджей. Если не будет вестись работы по этому поводу, будут оргвыводы", - паабяцаў прэзідэнт.

СІМ

## ВЕДЫ - ЎЛАДА

21 студзеня 1995 года ў Менску, у Доме літаратара, адбылася афіцыйная прэзентацыя Беларускай нацыянальнай партыі.

Зьяўленьне яшчэ адной партыі правага накірунку - гэта сьведчаньне сталеньня грамадзтва, пераарыентацыі нацыянальнага руху з мэты адраджэньня і аднаўленьня ўласнай дзяржавы.

Веды - ўлада, казаў ангелец Фрэнсіс Бэкан, таму "БНП", як партыя дзяржаўная, адказная за свае дзеяньні, мае свой мазгавы цэнтр - навуковы аддзел, які забясьпечвае сістэмную падтрымку дзейнасьці партыі на ўсіх узроўнях, разуменьне стратэгій будучых мэтаў і тэхналогій іх дасягненьня, рэалізацыі ў жыцьці. Беларуская нацыянальная партыя - партыя палітыкі Суладдзя, уладкаваньня жыцьця па чалавечых нормах. У "БНП" шмат людзей разумовай працы, навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў. Да яе далучыліся ўякасьці фракцый дзьве моцныя маладзёжныя суполкі.

На прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі іншых палітычных партый, грамадзянскіх рухаў, творчых асацыяцый, Агенцтва гуманітарных тэхналогій, бізнэс-структур.

Сьв.ІОСЬКА



# ГРАМАДЗТВА

## ПАРЛАМЕНЦКІЯ КАМІСІІ ПРАПАНУЮЦЬ ЗЬМЯНІЦЬ ПАДАТКАВАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

Парламенцкія камісіі па прамысловасьці, па эканамічнай рэформе і бюджэтна-фінансавая зьбіраюцца прапанаваць у бліжэйшыя дні на разгледжаньне сесіі Вярхоўнага Савета некаторыя зьмяненьні ў падаткавае заканадаўства рэспублікі. У прыватнасьці, камісіі лічаць неабходным зьнізіць 5% стаўку падатку цякучага году па прапанове прэзідэнта, да 2%. Уладзімір Новік, старшыня камісіі па прамысловасьці, зазначыў, што ўвядзеньне 5% падатку прыводзіць да росту цэн на тавары айчыннай вытворчасьці. Пакутуюць у гэтым становішчы, як заўсёды, законапаслухмяныя прадпрыемствы і пакупнікі. "Ценевікі" ж як вядома, увогуле не зьбіраюцца плаціць падаткі. "З імі трэба змагацца іншымі сродкамі", - зазначыў сп. Новік.

СІМ

# НАС У АМЭРЫЦЫ НІХТО НЕ ЧАКАЕ

Прыкладна паўгады таму гарадзенец Юсуф Мірза Крыніцкі пакінуў Горадню і ад'ехаў разам з сям'ёй да ЗША. На днях спадар Юсуф наноў аб'явіўся ў Горадні і расказаў пра сваё жыцьцё ў Злучаных Штатах.

"Да Вашынгтону даляцелі без нечаканасьцяў. Праўда, жонка перад пасадкай да самалёту надта перажывала, што нешта непрадугледжанае здарыцца і нас затрымаюць, ня выпусьцяць. Аднак усё апынулася як належыць. У Вашынгтоне часова размясьціліся ў цётկі. Пажылі дзень, два, і я пачаў шукаць працу. Найперш пажадаў выпрабаваць сілы ва ўласнай справе. Я - нумізмат, і маё захапленьне калекцыянаваць вельмі дапамагло ў Амэрыцы. Дзякуючы калекцыі манет, якую беспярэшкодна вывез з Горадні, адкрыў невялікую антыкварную краму. Амэрыканцы вельмі спакусьлівыя да ўсялякага роду калекцый. Мая справа пайшла няблага. За кастрычнік 1993 года продаж манетаў прынёс прыбытак 2500 даляраў. З іх давялося 500 выплаціць за дзіцячы садок. Харчаваньне нашай сям'і абыходзіцца ў 300 даляраў. Крыху ідзе на транспарт, каб даехаць да месца працы. Астатняе застаецца ў сям'і. За паўгады жыцьця ў Вашынгтоне ў мяне з'явіліся сталыя кліенты, што ахвотна скупаюць манеты з выявай Леніна і герба СССР. У сваю чаргу манеты мне прывозяць расейскія турысты, эмігранты, матросы. Вось такі незвычайны канвеер. Аб ЗША і грамадзянах гэтай краіны ўжо маю пэўнае ўяўленьне. Шэраговы амэрыканец не цікавіцца тым, што ад яго далёка. Яму зусім абыякавая вайна ў Чачні ці на Блізкім Усходзе. Шэраговага грамадзяніна Амэрыкі ў значнай ступені хвалюе лёс Марціны Наўрацілавай - лесбіянкі, прафесійнай тэнісісткі. Амэрыканцы больш турбуюцца праблемамі аўтаканцэрна "Форд"!. Адным словам, амэрыканцам бліжэй праблемы мясцовага характару, чым нейкія там далёкія войны за суверэнітэт. Мне, чалавеку, што нядаўна трапіў да ЗША, гэта дзіўна, бо калі глядзіш на вясёлыя, добрыя твары амэрыканцаў, то думаеш, што яны табе ва ўсім дарадзяць, ва ўсім дапамогуць. Аднак уяўленьне гэтае не адпавядае рэчаіснасьці. Амэрыканец дбае толькі пра свой інтарэс. Нас жа ў Амэрыцы ніхто не чакае. Мы там чужыя. Неабходна разьлічваць толькі на ўласныя сілы, здольнасьці, жаданьне здабыць грошы. Праўда іншым эмігрантам, што трапілі да ЗША, але маюць грамадзянства гістарычнай радзімы, крыху лягчэй, бо за іх уступаюцца пры патрэбе пасольства ці консульства. Мне, чалавеку са штампам у сярпкаста-малаткастым пашпарце "Грамадзянін Рэспублікі Беларусь", разьлічваць на дапамогу амаль нельга. Перад прыездам я быў у нашым беларускім пасольстве ў Вашынгтоне, дык са мной ні водзін супрацоўнік пасольства не размаўляў на дзяржаўнай мове. У душы засталося такое ўражаньне, што нашы дыпламаты не ведаюць увогуле, для чаго яны працуюць у Вашынгтоне. Мне было дзіўна і прыкра, бо разам з абыякавасьцю чыноўнікаў убачыў іх поўную разгубленасьць, недзеяздольнасьць. Нашы дыпламаты не могуць нават купіць сабе звычайную крынічную ваду, якую па некалькі цэнтаў за літар разносяць па Вашынгтону негры. Беднасьць пануе не толькі на Беларусі, але і ў нашых прадстаўніцтвах за мяжою. Я вярнуўся на радзіму часова. Хачу распачаць гандаль амэрыканскімі легкавікамі. Гэтую справу прапанавалі мне камерцыйныя агенты фірмы "Форд". Зараз я прывёз да Горадні адзін джып, пабачу, які на яго будзе тут попыт. Калі ахвотнікаў будзе шмат, то неўзабаве адкрыю ў Горадні і Менску агенства па продажы амэрыканскіх аўтамабіляў, што дапаможа Беларусі мець валюту, а мне створыць упэўненасьць ў будучыні".

Г.ДАМІНІКАНСКІ

## ЗАКОН АБ ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ ЎСТУПІЦЬ У СІЛУ НАВАТ КАЛІ ПРЭЗІДЭНТ ЯГО НЕ ПАДПІША

31 студзеня 232 дэпутаты парламенту зноў прагаласавалі за Закон аб Вярхоўным Савеце. Гэты Закон быў прыняты 21 сьнежня, але А.Лукашэнка не падпісаў яго і накіраваў на паўторнае разгледжаньне са сваімі заўвагамі. Асноўная практыка прэзідэнта была накіраваная на сацыяльныя ільготы дэпутатаў і гарантыі незалежнасьці заканадаўчай улады. Але дзьве трэці дэпутатаў зноў прагаласавалі за гэты закон і, згодна з дзейнічаючай Канстытуцыяй, прэзідэнт павінен падпісаць яго на працягу трох дзён. Калі ж гэта не адбудзецца, Закон усё роўна ўступіць у сілу.

СІМ

# БАЛЬ Д'ЯБЛА НА БЕЛАРУСІ

Сёньняшняя трагедыя, у якой апынуліся мы, ні параўноўвацца ні з чым, акрамя хіба што з Вялікай Айчыннай вайной. Мы перажылі інфляцыю, гіперінфляцыю, развал эканомікі, і, нарэшце, дэградацыя нацыі. Чорная быль - будзе запісана ,у архівах гісторыі Беларусі, нашчадкам нашым, гэта боль, крык душы, гэта сьлёзы і калецтва выміраньне генафону нацыі. Разбурэньне, раскраданьне сьвятых храмаў, духоўная зьнявага, вось што пасеялі барацьбіты дыктатуры чырвонага пралетарыята.

Што могуць зрабіць пракамуністычныя сілы - злачынцы па сваёй сутнасьці, хаўрусьнікі, падхаліммы, двулікія людзі. Ім сёньня вельмі спрыяльна рабіць тую справу, якую рабілі чырвона-карычневыя. Іх навучылі толькі красьці па той сьхеме, якая існавала ў сістэме ўлады. "Хто вышэй, таму і болей". Іх вымушалі па волі "праваднра народаў" забіваць сяброў, сваіх родных, пісаць паклёпы, каб самім выжыць, ці гэта ня быў зародак сатанізму? Так! І сёньня можна бачыць гэтых задаволенных, што аплёўваюць усё жывое, якое хоча вырвацца з цемры, з гэтага сьмецьця ў якім апынуліся. Маленькае зярнятка якое толькі што прабіваецца з цемры да сьвятла боскага.

Абыякавасьць - вось што сёньня можна бачыць вакол, няма сьвядомасьці, духоўная пустата, сквапнасьць, жорсткасьць - гэта тое, што пасеяла сатана ў абліччы постаці барацьбіта за новае жыцьцё. Баль сатаны адбываецца сёньня на нашай шматпакутнай Радзіме. "Товарищи" - лічаць усё забыта, не, прыйдзецца адказваць за зьдзекі і пакуты бязвінных ахвяр сталінізма-бальшавізма, гісторыю нельга забыць бо гэта гісторыя нацый, бо нельга забіць душы людзей. Я перакананы адбудзецца яшчэ адзін суд над бальшавізмам-камунізмам - Нюрнберг-2. За мілёны загінуўшых, замучаных, замерзлых, распятых духоўна людзей. Гулаг, Магадан, Варкута, Салаўкі і шмат іншых мясьцін Расейскай імперыі. Мы не павінны гэта забыць, гэта наш духоўны абавязак.

Наша заступніца сьвятая Эўфрасіньня Полацкая, асьвятляла малілася Богу за нашу Радзіму, якая стварыла духоўную годнасьць нацыі, асьвятліла навукай, дала духоўную моц народу Беларусі.

Постаць чалавека, які прадстаўляе нашу Радзіму, які гаворыць, што ён першы БЕЛАРУСКІ ПРЭЗІДЭНТ, каго гэты прэзідэнт прадстаўляе - нашу Радзіму, ці "пост савецкую прастору" аб якой яны любяць гаварыць,- гэта іхняя мара, і яна адбудзецца калі мы будзем гнуць ніжэй галовы, і стаяць на каленях, нам будуць пляваць у вочы і выціраць аб нас ногі. Чалавек які завецца прэзідэнтам павінен шанаваць па-першае сваю нацыянальную духоўнасьць, радзіму, культуру. Сорамна за такога прэзідэнта, які ня ўмее прачытаць з паперкі на сваёй беларускай мове. Постаць, якая сьціснуўшы кулак скрозь зубы робіць выступ. Мы дзесьці ўжо гэта бачылі, скураныя чорныя строі з наганам на баку, гэта цень тых людзей.

Зараз здаецца ў залог Расеі наша шматпакутная маці Беларусь. Народ і гісторыя, рэальнасьць і час,сёньняшнія падзеі і вечнасьць, гэта не даруюць нам нашчадкі. Дзеля іх наша сёньняшняя барацьба - справядлівасьці, сьвет, агеньчыка ў сэрцах змучаных людзей, якія паўсталі супраць зла, супраць ганьбы нашай нацыі.

Воля, незалежнасьць, духоўная і фізічная моц, свабода, вось што трэба народу Беларусі, а не быць у залежнасьці ад кагосьці.

Мы - людзі працы. Аснова эканамічнай незалежнасьці павінна грунтавацца толькі на нацыянальных інтарэсах. Прыватная ўласнасьць і прыродныя багацьці гэта ўсё недатыкальнае і сьвятое нашай Радзімы. Есьць шляхі каб вырвацца з сёньняшняга крызісу эканомікі. Трэба ісьці шляхам да інтэграцыі з дзяржавамі Эўропы, да цывілізаванага жыцьця.

А.КУЛІК

# АБЯЦАНКІ - ЦАЦАНКІ, АЛЬБО ПРАЦА НА КАЛЁСАХ

Памятаю, як некалькі гадоў таму, уладныя цешылі ахвочых адправіцца на гандаль да суседняй Польшчы праз КП "Брузгі", што тое месца ў хуткім часе будзе адпавядаць эўрапейскім стандартам. Мясцовыя і наезжыя гандлёвыя турысты на такія заявы рэагавалі адпаведна: мауляў, будзе ў Брузгах шмат кропак, дзе можна зьесьці гарачы абед, будзе месца й для культурнага адпачынку і г.д. Спадзеўкі-надзеі так і засталіся марамі, бо й да гэтага часу ў Брузгах адсутнічаюць самыя прыметыўныя ўмовы абслугі тых, хто наважыўся зарабіць на таржышчах Эўропы. Праўда сёе-тое тут сёньня можна набыць. Напрыклад, гарачыя сасіскі, каву, гарбату. Прадаецца ўсё гэта ў невялічкіх прыватных шапіках, дзе нельга распрануцца, каб зьесьці свой набытак, адпачыць. Вось і сыяшаюцца аматары гарачай стравы да сваіх легкавікоў, каб у заціншы салона адведаць тое, што прапануюць камерсанты. Нярэдка ад шапіка да легкавіка патрабуецца прайсьці не адну вярсту. Тое, што было гарачым застаецца лёгка-цеплым. Скарыстаны аднаразавы посуд таксама няма куды дзець. Выкідаюць яго проста на ўзбочча дарогі. "А што зробіш, калі іншага выйсьця няма. Хацелася б, каб тут была і лазьня, і гатэль, і сталоўка, сказала карэспандэнту "Пагоні" Алена Гайкевіч з Горадні, бо мяжа - гэта ужо некалькі год запар яе транзітнаае працоўнае месца.

А пакуль улады Гарадзенскага раёна думаюць - горы сьмецьця растуць, палохаючы ня толькі чысьцюляў-эўрапейцаў, а і так прывыклых і абыякавых да ўсяго нашых грамадзян.

Г.ВАСІЛЕВІЧ

Фатаграфаваў: У.УЛАДАСЕВІЧ








# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

# ПОЛЬШЧА НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ

У палітыцы мінулы тыдзень быў адносна спакойным. Найбольш істотнай падзеяй можна лічыць двухдзённыя нарады Канстытуцыйнае Камісіі, якіх усе чакалі з нецярплівасьцю, з увагі на рашэньні, якія мелі быць на іх прынятыя. Датычаць яны існаваньня Сэнату, падзелу ўлады паміж прэзідэнтам і Сэймам, запісаў пра Касьцёл ды абарону жыцьця. Апошны запіс, названы адным з дэпутатаў "публіцыстычным", сьцьвярджае, што "кожны мае права на абарону жыцьця". Аднак агульнасьць фармулёўкі не задавальняла ані праціўнікаў аборцы, ані праціўнікаў сьмяротнага пакаараньня злачынцаў.

Гэткія ж агульныя запісы былі прапанаваны ў сувязі з падзелам кампэтэнцыяў прэзідэнта і ўраду. І хаця прэзідэнта пазбавілі магчымасьці непасрэднага кіраваньня, далі яму тытул "гаранта працягласьці і непарушнасьці ўлады", што хутчэй за ўсё яшчэ ўзбудзіць сур'ёзныя інтэрпрэтацыйныя праблемы.

За тое прыхільнікі захаваньня Сэнату выйгралі. Дэпутаты Польскаае Сялянскае Партыі ў апошні момант зьмянілі меркаваньне і прагаласавалі "за". Такім чынам, Сэнат мае шанцы на існаваньне, хаця ў цяперашнім Сэйме большасьць складаецца з кааліцыі, якая выказваецца не на ягоную карысьць. Гэта можа прывесьці да чарговых канфліктаў у шэрагах дзьвюх партыяў, зь якіх складаецца цяперашняя ўрадавая кааліцыя. Левыя сілы хочуць пасьлядоўна зьменшыць ролю гэтае палаты, а Сялянская Партыя хоча ператварыць Сэнат у самаўрадавую адзінку. Так што антысэнацкая кааліцыя не зьяўляецца надта моцнай, каб вырваць з карэньнямі ведамства, якое ня гледзячы на сваю навізну ў пасьляваеннай гісторыі Польшчы мае некалькі стагодзьдзяў традыцыі.

Лех Валэнса імкнецца распусьціць парлямант - гэтак лічыць большасьць палякаў, якія пераважна адмоўна ацэньваюць тое, якім чынам кіруе прэзідэнт. Апытаньне на гэтую тэму правёў цэнтар грамадзкіх дасьледаваньняў спецыяльна дзеля газеты "Жэчпасаліта". Разважаючы вынікі гэтых дасьледаваньняў, штодзёнка зьвяртае ўвагу чытачоў на няпэўнасьць меркаваньняў вакол таго, ці кульмінацыі спрэчкаў прэзідэнта з урадавай кааліцыяй будзе роспуск парляманту.

* * *

Гэта адна з найбольш палітычных загадкаў тыдняў. Аднак мінулы тыдзень вызначыўся перш за ўсё іншай падзеяй з памежжа палітыкі й культуры.

50-я гадавіна вызваленьня канцлягеру ў Асьвенцыме несумненна была падзеяй, якая зацьміла ўсе іншыя ў мінулым тыдні. Кіраўнікі дзяржаваў, палітыкі й рэлігійныя кіраўнікі, сабраныя пад сьцяной растрэлаў у гэным страшэнным месцы прынялі супольны зварот да народаў сьвету.

Паўстагодзьдзя мінула ад заканчэньня вайны й вызваленьня Асьвенцыму, але сьляды гітлераўскіх злачынстваў яшчэ не загаіліся. Насуперак спадзяваньням гадавіна ня сталася знакам паяднаньня. Найперш на працягу многіх тыдняў суарганізатарам урачыстасьці - палякам і габрэям - цяжка было паразумецца. Сьпіс гасьцей да самага канца ня быў вядомы. Лаўрат нобелеўскай узнагароды Эль Візэль ня сеў побач прэзідэнта Валэнсы падчас урачыстасьцяў у Ягелёнскім Унівэрсітэце. Заходняя ды ізраэльская прэса былі поўныя паведамленьняў пра "палянізацыю" ўрачыстасьці. Некаторыя газеты пісалі пра віну палякаў, выкарыстоўваючы нават акрэсьленьне "польскі канцэнтрацыйны лагер". У Асьвенцім прыехаў славуты рабін Аві Вайс, каб у чарговы раз пратэставаць супраць каталіцкіх сымболяў на тэрыторыі лагеру. Апроч таго напярэдадні галоўных урачыстасьцяў, адбылося неафіцыйнае сьвяткаваньне, арганізаванае габрэйскімі арганізацыямі. Гэта не была контрурачыстасьць, але ўражаньне гармоніі ды адзінства перад абліччам былое трагедыі, ня гледзячы на ўсе намаганьні арганізатараў было страчанае. Гэткім чынам угодкі, якія павінны былі падкрэсьліць памяць аднаго з найстрашнейшых злачынстваў у гісторыі, і мелі мець чыста чалавечы, маральны характар, былі пабруджаныя палітыкай.

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

**У МІНУЛЫ ЧАЦЬВЕР ВЕЧАРАМ У БРУСЭЛІ ЗАВЯРШЫЎСЯ ПЕРШЫ РАБОЧЫ РАЎНД ПЕРАМОВАЎ ПАМІЖ ЛЕТУВОЙ І СЭ АБ АСАЦЫЯВАНЫМ ЧЛЕНСТВЕ.**

Асацыяцыя з Саюзам Эўропы створаць для Летувы ўмовы падрыхтавацца да поўнай інтэграцыі ў палітычныя, эканамічныя і абарончыя стуктуры кантынента, забясьпечыць пастаянны палітычны дыялог паміж Летувой і СЭ. Сакратар Міністэрства замежных справаў Альбінас Янушка, які кіраваў дэлегацыяй на гэтых перамовах, назваў першы іх раунд агенцтву БНС "пасьпяховым". Бакі абмяняліся думкамі адносна кожнага артыкула праекта дагавора, прадстаўленага камісіяй СЭ. Канстатавана, што па большасьці пытаньняў думкі бакоў поўнасьцю супадаюць, а выяўленая розніца ў пазіцыях - пераадольная. Па словах кіраўніка дэлегацыі ў Брусэлі падцьвердзілася надзея, што для падрыхтоўкі дагавора павінна б хапіць 2-3 раундаў перамоваў, і ўжо ўвесну дагавор будзе падпісаны.

Дэлегацыю Саюзаа Эўропы на першым этапе перамоваў узначальваў дырэктаар 1-га Генеральнага дырэктарата СЭ Алан Мэйх'ю.

Другі этап перамоваў намечаны на 27 лютага.



**На здымку: Вільня. Касьцёл сьв. Казіміра. Пабудаваны ў пачатку XVII ст.**

**Фота. У.СТРУМІЛЫ**

# ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў 1995 ГОДЗЕ

**Рыгор Таразевіч, пасол Беларусі ў Польшчы:**

Мінулы год быў складаны, але двухбаковыя адносіны паміж нашымі краінамі неяк рушылі наперад. Напрыклаад, надаўні візыт Міністра замежных справаў Польшчы Андрэя Аляхоўскага, на мой погляд" быў даволі плённым. Пазьней дала свой плён супольная праца беларуска- польскае камісіі па гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Чарговая сустрэча прэмьер-міністраў М.Чыгіра ды В.Паўляка дала магчымасьць нашым краінам пашырыць супрацоўніцтва яшчэ на некалькі галінаў. А сёлета мы чакаем візыту прэзідэнта Беларусі спадара Аляксандра Лукашэнкі ў Польшчу, і гэта для мяне вельмі важная справа.

**Марэк Зюлкоўскі, дарадца пасольства Рэспублікі Польшча на Беларусі:**

Я не хацеў бы іранізаваць, але, на маю думку, лепей было б сказаць пра тое, што трэба зраабіць у нашых двухбаковых адносінах. Трэба сабе усьведамляць маштаб абмежаваньняў супрацоўніцтва ў розных галінах. Абвяшчэньне Беларусьсю незалежнасьці, альбо эканамічныя рэформы ў Польшчы яшчэ ня сьведчаць пра зьбліжэньне нашых краінаў, ды пра супрацоўніцтва на ўзроўні, годным суседзяў. На маю думку, на далей не вырашанае пытаньне польскае эканамічнае прысутнасьці на Беларусі. Гандлёвы абарот зь Беларусьсю складае 0,8% усяго польскага гандлёвага абароту, што насьцярожвае, бо гэта не выглядае на суседзкія адносіны. Вось дзе праблема. Што Польшчы можа прапанаваць Беларусь? На жаль, колькасьць адмоўных зьяваў у беларускай эканоміцы значна перавышае колькасьць станоўчых.

Мушу сказаць зь вялікім сумам, што польскія асяродзьдзі не даацэньваюць ролі інфармацыйнае прысутнасьці Польшчы тут, на Беларусі. Бяз польскае прэсы, кніг, рознага тыпу культурных установаў мы ня зможам стварыць сапраўднага прапольскага лёбі, ані новага стаўленьня да сучаснае Польшчы. Будучы ў Менску, я заўважыў, што Польшча для беларусаў - краіна прывабная.

Цяжка гаварыць пра пэрспэктывы палітычнага супрацоўніцтва ў гэтым годзе, бо шмат чаго ўжо зроблена. Напрыклад праца пад так званай юрыдычна-трактатнай базай ужо завершаная, падпісаная невялікая колькасьць міждзяржаўных пагадненьняў. Цяпер патрэбная канкрэтная праца, частку якой, натуральна, можнаа выканаць у 1995 годзе.

Думаю, што ня можна гаварыць пра нейкія сьветлыя перспектывы, бо магчымасьці, як польскія, так і беларускія, ня надта вялікія, а імкненьне да супрацоўніцтва слабое. Мы ж не адзіныя дзяржавы ў Эўропе. Кожны мае свае інтарэсы. Таму нам можна, бадай, спадзявацца чагосьці аптымістычнага альбо наадварот - пэсымістычнага. Падкрэсьліваю: я лічу, што 1995 год не прынясе нам нічога выключнага.

**Лёнгін Пастусяк, намесьнік старшыні камісіі замежных справаў у польскім Сэйме:**

Думаю, што перспектывы польска-беларускага супрацоўніцтва абумоўленыя геаграфічным палажэньнем - мы ж суседзі. Гэта наказвае нам шукаць розных формаў супрацоўніцтва, рабіць высновы з рознага тыпу перашкодаў якія паўставалі на нашым шляху на працягу апошніх гадоў.

Найбольшыя шанцы, на маю думку, існуюць у галіне эканомікі. Польшча пачынае будаўніцтва аўтастрадаў. Адна зь іх - аўтастрада А2 - якая будзе спалучаць Захад з Усходам, дае нам, Польшчы й Беларусі, вялікія шанцы чэрпаць карысьці з гандлю паміж найбольшым сусьветным гандляром - Нямеччынай і вельмі вялікім рынкам збыту на Ўсходзе - Расеяй. Беларусь мае вялікія шанцы ў выкарыстоўваньні нашых марскіх портаў. Доступу да мора гэтая краіна ня мае, і хацелася б, каб у Гданьску паўстала беларускае ўзьбярэжжа, каб Беларусь магла трактаваць польскія порты як свае. Такія магчымасьці ёсьць, патрэбны толькі аўтастрады альбо чыгункі, гэтакзваная інфраструктура. А што датычыць марскога патэнцыялу, дык Польшча гатовая яго даць.

Ёсьць вялікія пэрспэктывы для разьвіцьця кантактаў памежжа. Гэтай канцэпцыяй зьяўляецца эўрарэгіён Буг, і магчыма што 1995 год будзе пераломным у гэтым супрацоўніцтве.

Думаю, што ў культурным супрацоўніцтве застаецца мноства нявырашаных справаў. Нам патрэбнае супрацоўніцтва, якое б захоўвала й даглядала нашае супольнае гістарычнае мінулае, ламала б стэрэатыпы. Магчымасьцяў тут безьліч. Чаму ж не разьвіваць кантактаў паміж моладзьдзю, музычнымі калектывамі?

Я разьлічваю на тое, што гэты год будзе годам лібэралізацыі гандлю, бо гэтага патрабуюць абодва бакі, мытныя стаўкі таксама мусяць быць абніжаныя. Усё гэта, несумненна, прычыніцца да інтэнсіфікацыі адносінаў паміж нашымі краінамі.

**Багдан Шчарбінскі, дырэктар дэпартамэнту супрацоўніцтва з замежжам у Міністэрстве транспарту і марской гаспадаркі Польшчы.**

Першай справай зьяўляецца справа транспартнага калідору Ўсход-Захад, які будзе сягаць далей па-за межы Нямеччыны й Расеі. На гэтым шляху будзе канцантравацца як транзітны, так і двухбаковы рух.

Найважнейшы шлях паміж Эўропай і Азіяй можа несьці нам вялікія карысьці, бо за Беларусьсю ляжыць Расея, якая мае спалучэньне праз Сібір з Далёкім Усходам, а таксама новую дарогу з Кітаем. Як суседзі мы павінны дзейнічаць разам зь Беларусьсю, бо гэткія пытньні ніхто не вырашае адзін.

23 студзеня нашыя краіны, разам з Нямеччынай ды Расеяй падпісалі мэмарандум, у Берліне, стварылі канкрэтныя падставы дзеля канкрэтных дзеяньняў. Калідор будзе ўключаць у сябе дарожную й чыгунную інфраструктуру, іншымі словамі, гэта будуць аўтастрада А-2 ды чыгуначная лінія Е-20. Трэба будзе пабудаваць неабходную колькасьць запраўачных станцыяў, гатэляў і шмат чаго іншага, каб калідор дзейнічаў нармальна. А дзяржавы, на тэрыторыі якіх ён знаходзіцца, толькі выйграюць. Падпісаньне мэмарандуму дае нам, партнёрам, магчымасьць больш шчыльнага супрацоўніцтва ў галіне стандартызацыі будучага камунікацыйнага калідору.

Незалежна ад тэматыкі транспартных калідораў, іншыя пытаньні таксама важныя. На першым месцы будуць справы памежных пераходаў. Колькасьць іх, негледзячы на ўсе намаганьні, недастатковая. Тут неабходны вялікія інвестыцыі. Не спрыяе руху й шырокая чыгункка, што засталася Беларусі ў спадчыну па Савецкім Саюзе. Абодва бакі маюць неабходную інфраструктуру на пераходзе Тэраспаль-Бярэсьце, і тут нам трэба паклапаціцца, каб яе адпаведным чынам выкарыстоўваць.

**Тадэвуш Славэцкі, старшыня польска-беларускай міжпарляменцкай групы:**

Мне здаецца, што супрацоўніцтва ў 1995 годзе будзе больш інтэнсыўным, чым летась. Зрэшты, польскі Сэйм, а таксама польская група міжпарляменцкай вуніі вырашылі, што мы будзем зьвяртаць асаблівую ўвагу на супрацоўніцтва з краінамі Цэнтральна-Усходняй Эўропы. Мы запланавалі кантакты з паасобнымі камісіямі, якія займаюцца супрацоўніцтвам зь Беларусьсю. Мы хочам абменьвацца дасьведчаньнем зь беларусамі, думаю што будзе магчымасьць абменьвацца візытамі дэпутатаў. Дзесяты пункт пагадненьня паміж нашымі дзяржавамі, заключанага два гады таму сьцьвярджае, што Беларусь і Польшча будуць ісьці ў напрамку як найлепшых кантактаў паміж парлямантамі нашых краінаў.

**А.АЙНА**

